


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 лістапада 2000 года
№ 47 (292)
Цана ў розніцу 96 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Новы кіраўнік на «Спадарожніку»

МАЛАДЗЕЧНА. На радыёзаводзе "Спадарожнік" змяніўся дырэктар – выконвае яго абавязкі **Іван Шчаюк**. Былы дырэктар завода **Уладзімір Шпакаў** сышоў па уласным жаданні.
Новаму кіраўніку ў снежні споўніцца 50 год, на "Спадарожніку" ён з 1969 года. Пачынаў са слесара-зборшчыка радыёапаратуры. Лічыць, што завод паступова можна вывесці з крызісу. Першым крокам будзе вяртанне дзейздольнасці заводскіх службаў і кваліфікаваных работнікаў.
Наступнае месца работы У. Шпакава невядома. Хутчэй за ўсё, ён вернецца ў Мінск.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Бесперспектыўны «ЛАЗ»

АСТРАВЕЦ. Па аўтобусных маршрутах, якія абслугоўвае мясцовы аўтапарк №4, пачаў курсіраваць новы аўтобус "ЛАЗ". Прадпрыемства набыло яго за грошы з транспартнага збору, уведзенага ў краіне. Абышоўся аўтобус у 20 мільёнаў рублёў. Выпусцілі яго яшчэ ў 1997 годзе, але не эксплуатавалі.
Аднак дырэктар аўтапарка №4 **Аляксандр Горбаль** назваў аўтобус бесперспектыўным, маючы на ўвазе тое, што бензінавы рухавік "з'ядае" шмат паліва.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Чарговая бомба

МЯДЗЕЛ. Каля вёскі Палессе знойдзеная авіяцыйная бомба. Прычым, на адным і тым жа палетку другі раз за апошнія два месяцы. Выкапаў яе пры ворыве механізатар мясцовага калгаса **Уладзімір Нарэйка**. Зноў давялося выклікаць групу размініравання з Мінска, якая і абясшкодзіла бомбу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### На веласіпеднай дарозе перакур

АСТРАВЕЦ. Увесну ля аўтадарогі Астравец-Гудагай мясцовае ДЭУ-149 распачало будаўніцтва веласіпеднай дарогі, якая дазволіць больш зручна і бяспечна дабірацца людзям на работу. Заказчыкам выступіла прадпрыемства "Гроднааўтадор". Улетку ўсе работы былі прыпыненыя на тэхналагічны перапынак, але неўзабаве зноў будуць адноўленыя. Мяркуецца да канца года завяршыць насып, а ў наступным – заасфальтаваць.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Жанчына кіруе калгасам

МЯДЗЕЛ. Жанчына–кіраўнік гаспадаркі з'явілася на Мядзельшчыне. Сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства "Беларусь" узначаліла **Наталля Бялоўская** (дагэтуль працавала тут галоўным бухгалтарам).
Як мінімум, год 40 у раёне жанчына калгасамі не кіравала.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Пасажырапаток на могілкі

МАЛАДЗЕЧНА. На гарадскія могілкі ў Лазавец неўзабаве, магчыма, можна будзе даехаць "гармонікам" – аўтобусам-счэпкай. Па просьбах пасажыраў маладзечанскі АП №4 у гэтыя выхадныя будзе вывучаць пасажырапаток. Асабліва на суботні рэйс, які адпраўляецца з аўтавакзала ў 11-06.
– Калі "попыт" будзе перавышаць умяшчальнасць звычайнага аўтобуса, пастараемся выдзеліць гармонік ужо праз тыдзень, – паабяцаў намеснік дырэктара аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі**.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Адмена электрычак



24 лістапада
адпраўленнем 13-41; 14-35
прыбыццём 11-47; 13-49

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 25 лістапада

**Мінск**
-9 – -1°С (уначы)
1 – 7°С (удзень)



**Вільня**
-5°С (уначы)
0°С (удзень)



Нядзеля, 26 лістапада

**Мінск**
-10 – -2°С (уначы)
0 – 8°С (удзень)



**Вільня**
-8°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Чарговыя фінансавыя ўліванні

**МІНСК. Савет Міністраў прыняў шэраг пастаноў аб накіраванні сродкаў з рэспубліканскага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі.**

МАЛАДЗЕЧНА. Найбольшую суму атрымае аграпрамысловы камбінат "Маладзечанскі": са сродкаў фонду яму выдзяляецца пазыка ў памеры 250 мільёнаў рублёў для набыцця маладняку буйной рагатай жывёлы з вяртаннем гэтых сродкаў да 1 мая 2003 года і выплатай 10% гадавых.

Аналагічная дапамога аказаная, зразумела, і многім іншым гаспадаркам краіны. Грошы, такім чынам, рэгулярна закопваюцца ў зямлю. Не маем на ўвазе канкрэтную працу вяскоўцаў – яна вельмі і вельмі цяжкая. Гаворка ідзе пра відавочна няўдалую сістэму гаспадарання, якой нашыя кіраўнікі ўпарта трымаюцца не адно дзесяцігоддзе.

Мы прызвычаіліся ўжо да штогадовых бітваў за сяўбу і ўраджай. І з упартасцю, дастойнай лепшага прымянення, выдаткоўваем «на вайну» грошы, якія затым не вяртаюцца.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



Фота Ігара Марозу.

**Нават для дачнікаў відавочна, што ўсе ўпартыя спробы выцягнуць з багны сельскую гаспадарку асуджаныя на правал. Нагадваюць яны рэгулярны вываз камення з нашых палеткаў.**

## Экспрэс–апытанне

# Ваш самы яркі армейскі ўспамін



**Аляксандр Баранаў, камандзір роты патрульна-паставой службы:**

– Тэрміновую службу не праходзіў з–за таго, што ў маім інстытуце была ваенная кафедра. Але на трохмесячных зборах быў.

Надта цяжка было залазіць у танк (рост А. Баранава – 187 см – аўт.). На рост тады асабліва не глядзелі, запіхвалі ўсіх. Наша спецыяльнасць была такая: намеснік камандзіра роты па тэхнічнай частцы. Яшчэ памятаю, што кармілі нас не надта.

Лічу, што служыць у арміі трэба. Яна робіць чалавека больш дарослым, а магчыма, і больш разумным.



**Юрый Лазар, намеснік дырэктара аўтапарка №4 па кадрах і інфармацыйнай рабоце:**

– Я служыў у Маскоўскай акрузе супрацьпаветранай абароны. Успамінаецца, як мы забяспечвалі аварыйную пасадку самалёта з прычыны адмаўлення аднаго з рухавікоў. Каб тады памыліліся, былі б ахвяры.

Лічу, добра, што мы служылі далей ад "мамінай спадніцы". Я, напрыклад, за 2 гады ў кароткатэрміновы адпачынак не з'ездзіў.

Для тых, чыя служба звязаная з рызыкай, паўтара года – гэта нямнога. Можна не навучыцца ўсім тонкасцям вайсковай спецыяльнасці.



**Юрый Краўчанка, старшы інспектар Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце:**

– Чаканне "дэмбеля" і сам "дэмбель". Цяперашняя служба, у параўнанні з нашай, – санаторый. Гэта не справа, калі юнакі служаць у родным горадзе і штодня ходзяць дадому на абед.

Ці патрэбна служыць? Не ведаю. Асабіста я тыя 2 гады лепш недзе павучыўся б.



**Юрый Скакоўскі, настаўнік фізікі:**

– Служыў спачатку на Украіне, а потым у Чэхаславакіі. Не шкадую аб службе. Цікава тое, што ў той час пабываў за мяжой. Нават тады там лепш жылі, чым мы. Крыўдна, што служыў за 70 кіламетраў ад Прагі, а горад так і не пабачыў.

Са службы ўспамінаю выпадак, калі мы з хлопцамі аднойчы сарваліся ў "самаволку". Куды пайсці? Зразумела, у бар! На падыходзе заўважылі, што нам насустрач ідзе камандзір роты. Паказальна, што шляхі–дарожкі савецкіх салдат і камандзіраў перасякаліся ў барах.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

## Магнітафоны ад консула

**АСТРАВЕЦ. Генеральны консул Польшчы ў Гродне Сільвестр Шостак падарыў раённаму аддзяленню "Саюза палякаў Беларусі" чатыры магнітафоны.**

Адзін з іх перададзены ў аддзяленне "Саюза палякаў" у Кямелішках. Астатнія будуць размеркаваныя ў школы раёна, дзе вядзецца выкладанне польскай мовы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## У палякаў новы старшыня

ГРОДНА–АСТРАВЕЦ. У мінулыя выхадныя ў Гродне адбыліся выбары новага старшыні ГА "Саюз палякаў Беларусі". Пасля таго, як улетку былы старшыня **Тадэвуш Гавін** склаў свае паўнамоцтвы, абавязкі старшыні выконваў **Іосіф Пажэцкі**. Перад выбарамі ён быў фаварытам, але затым зняў сваю кандыдатуру.



Фота з архіва «РГ».

**Большасцю галасоў быў абраны гісторык Тадэвуш Кручкоўскі. Неўзабаве пасля абрання ён заявіў, што ГА "Саюз палякаў Беларусі" будзе па–за палітыкай, гэта значыць, не будзе ў апазіцыі да цяперашняй улады.**

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

## Тэхнічны агляд асабістага транспарту

**МАЛАДЗЕЧНА. У 2001 годзе тэхнічны агляд будзе праходзіць з 1 студзеня па 31 лістапада. Мяркуецца задзейнічаць 3 дні тыдня: панядзелак, сераду і суботу.**

Месцам праходжання вызначаная станцыя тэхнічнага абслугоўвання "Маладзечнасервіс". Стан транспартных сродкаў тут правераць спецыялісты. Інспектар ДАІ зверыць нумары агрэгатаў (шасі, рухавік і г. д.) з тэхнічным пашпартам, праверыць медыцынскую даведку, наяўнасць страхавога поліса (на дзень праходжання тэхагляду), адпаведнасць прапіскі дадзеным у тэхпашпарце.

Гэтыя патрабаванні будуць выконвацца згодна з рашэннем Мінаблвыканкома.

**МАЛАДЗЕЧНА. За 10 месяцаў 2000 года ў горадзе і раёне зафіксавана 341 дарожна–транспартнае здарэнне. У 86 з іх пацярпелі людзі. Загінула 24 чалавекі, паранена 75. З 86 здарэнняў з людскімі ахвярамі 43 здарэнні атрымаліся з удзелам пешаходаў. Загінула 13 пешаходаў.**

**Падрыхтаваў Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ НЕДЗЯРЖАЎНАЯ ПРЭСА

# Самы баявы саюз у Еўропе

**МІНСК. У Міжнароднай федэрацыі журналістаў (МФЖ) лічаць, што Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) з'яўляецца «самым баявым союзам Еўропы». Так выказаўся прадстаўнік Саюза журналістаў Літвы Віліус Каваляўскас падчас выступлення з прывітаннем ад МФЖ на І Рэспубліканскім фестывалі незалежнай прэсы, які прайшоў у Мінску тыдзень таму.**

– Вы вельмі добра працуеце, – сказаў Каваляўскас прысутным журналістам, – і я мяркую, што ў гэтым – гарантыя добрай будучыні для Беларусі.

Удзельнікамі фестывалю сталі прадстаўнікі каля 50 рэдакцый недзяржаўных выданняў з Мінска і рэгіёнаў краіны, якія выставілі свае стэнды.

Прэзідэнт Расійскага ПЕН-цэнтра **Аляксандр Ткачэнка** зазначыў, што ў многіх у Расіі «баліць сэрца за Беларусь», паколькі ў Расіі, паводле ягоных слоў, «будуюць капіталізм з сацыялістычным аблічам, а ў Беларусі — сацыялізм з нечалавечым аблічам».

Ганаровых дыпломаў БАЖ як лепшыя рэдакцыі ўдастоіліся «Комсомольская правда в Белоруссии», «Беларуская маладзёжная» і «Свободные новости плюс». У неафіцыйнай частцы фестывалю, пабудаванай як вусны выпуск газеты (з перадавым артыкулам і іншымі рубрыкамі), жоўтыя майкі лідэраў ад Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў імя **М.Куняўскага** атрымалі рэдакцыі «Белорусской деловой газеты», «Белорусского рынка» і «Комсомольской правды в Белоруссии». Прыз Беларускага ПЕН-цэнтра і БАЖ «За мужнасць» дастаўся галоўнаму рэдактару «Беларускай маладзёжнай» **Таццяне Мельнічук**. Дыпломы тэатра «Вольная сцэна» атрымалі **Марына Коктыш** («Народная воля») і **Сяргей Шапран** («Белорусская деловая газета»). Прызы Беларускага саюза прадпрымальнікаў уручаныя **Ганне Ляшкевіч** («Комсомольская правда в Белоруссии») і **Яраславу Раманчуку** («Белорусская газета»).

Уручаны прыз і «Рэгіянальнай газеце».

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ГРАМАДСТВА

# У БДУ будуць навучаць па–беларуску?

**МІНСК. Канцэпцыю пераводу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на беларускамоўнае навучанне распрацавалі грамадскія аб'яднанні «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» і «Таварыства беларускай школы». Дакумент, падпісаны кіраўнікамі ТБМ і ТБШ Алегам Трусавым і Алесем Лозкам, накіраваны рэктару БДУ Аляксандру Казуліну.**

Аўтары канцэпцыі зазначаюць, што, згодна са звесткамі перапісу насельніцтва 1999 года, беларусы складаюць 81,6% насельніцтва краіны, з іх 85,6% лічаць беларускую мову роднай. Пры гэтым 37% грамадзян штодзённа размаўляюць па-беларуску. Аўтары дакумента ўзгадваюць, што БДУ быў створаны ў 1921 годзе як нацыянальная вышэйшая навучальная ўстанова, якая сёння з'яўляецца вядучай у краіне. Разам з тым, у краіне дагэтуль няма універсітэта, дзе б усе прадметы выкладаліся на роднай мове карэннага насельніцтва.

Зыходзячы з канстытуцыйнага права грамадзян на гарантаваную дзяржавай свабоду атрымання адукацыі на нацыянальнай мове і неабходнасці павышэння яе статусу, аўтары дакумента прапаноўваюць кіраўніцтву БДУ ў 2001–2006 гадах перайсці на беларускамоўнае навучанне.

З гэтай мэтай прапануецца ўжо ў 2001–2002 навучальным годзе стварыць у структуры БДУ Нацыянальны інстытут (НІ) з факультэтамі – гістарычным, філалагічным і мастацтвазнаўства; са спецыялізацыямі – музеязнаўства і ахова помнікаў гісторыі і культуры, мастацтвазнаўства, культурная спадчына і міжнародны турызм, дызайн. Згодна з канцэпцыяй, загадам рэктара ўстанаўліваюцца льготы супрацоўнікам і студэнтам НІ, у тым ліку, зменшаны аб'ём педагагічнай нагрузкі і павышаны памер стыпендыі. Рэалізуецца план перападрыхтоўкі выкладчыкаў і тэхнічнага персаналу, арганізуюцца абавязковыя курсы па культуры беларускай мовы. Прычым у НІ пераводзіцца на беларускую мову як выкладанне ўсіх дысцыплін, так і візуальнае афармленне ВНУ і яе справаводства.

Разам з тым, згодна з канцэпцыяй, у БДУ прадугледжваецца двухмоўнае навучанне з абавязковым наборам толькі на беларускамоўнае студэнтаў факультэтаў журналістыкі, біялагічнага, хімічнага, геаграфічнага, механіка-матэматычнага, філасофска-эканамічнага, юрыдычнага і міжнародных стасункаў.

У наступныя гады прапануецца, з улікам жадання студэнтаў, паступова перавесці на беларускамоўнае навучанне ўсе спецыяльнасці і факультэты.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

■ НАГЛЯДНАЕ ВЫХАВАННЕ

# Пра зладзейскае брацтва

Зладзейскае брацтва пачало зараджацца яшчэ ў царскай Расіі. Па паданні, адным з цэнтраў гэтага зараджэння была крытая турма ў Волагдзе. Арыштанты ад зладзейскага промыслу стварылі сваё кола (так званы абшчак – гэта грошы і рэчы, якія ідуць на падтрымку асуджаных). Зладзейскае брацтва папаўняецца моладдзю, якая дасканала валодае зладзейскай спецыяльнасцю. З часам зладзейскае брацтва відазмяняецца. Адныя спецыяльнасці адміраюць, другія толькі нараджаюцца. Найбольш распаўсюджаныя спецыяльнасці кішэннікаў, ці шчыпачоў (працуюць у месцах зборышчаў людзей – на рынках, у аўтобусах). Мядзвяжатнікі ўскрываюць сейфы. Майданшчыкі працуюць на вакзалах, цягніках. Слесары пранікаюць у кватэры пад відам электрыкаў, сантэхнікаў і г. д. Фармазоншчыкі займаюцца падробкай дакументаў. Усе злодзеі стараюцца пазбегнуць гвалту пры рабоце.

У час зараджэння зладзейскага брацтва пачала складацца тайная мова (феня ці мурка), прызначаная для ўтойвання сэнсу размовы ці запіскі ад фіскальных органаў. Цяпер яна ўжо не з'яўляецца сакрэтам (у турэмнай адміністрацыі нават ёсць тлумачальныя слоўнікі гэтай мовы). Таму феня пачала адміраць, а некаторыя словы перайшлі ў штодзённую мову. Вось некалькі прыкладаў:

Малява – сродак зносін, запіска.

Ксіва – дакументы (тлумачэнне за ўклад арыштанцкага жыцця).

Хата – камера.

Дзелапут – дырэктар фірмы.

Ляпіла – доктар.

Фуцін – той, хто нічога не разумее ў арыштантскім жыцці.

Алень – чалавек, які носіць ежу са сталовай, мые і прыбірае за іншых.

Пінчакракала – апушчаны.

Для падтрымкі зладзейскага парадку ў няволі наладжаная цэлая сістэма сувязі. Самае простае – перастукванне з акна ў акно (панарама). Ёсць і больш канспіраваная сувязь. Гэта перасылка маляў (запісак на фені) з камеры ў камеру. Першае. У сценцы (да 50 см) з дапамогай калаўрота свідруецца дзірка (кабура). Ад такой работы на руках з'яўляюцца крывавыя мазалі. І так з камеры ў камеру. Праз іх і перадаюцца запіскі. У час, калі дзірка не патрэбная, яе замазваюць – маскіруюць. Час ад часу кантралёры (ключнікі) знаходзяць гэтыя дзіркі і забіваюць пробкі. Тады робіцца кола, дзіркі свідруюць па крузе ў паўметра, і калі ў чарговы раз забіваюць пробкі, гэты кавалак сцяны вывальваецца зусім. Сцяна патрабуе рамонту. Другое. Праз форткі з дапамогай прыстасавання (прычала) нацягваюць вяроўкі паміж камерамі і па іх ганяюць невялікія запіскі і рэчы (коней). Гэта робіцца ноччу, час ад часу раздаецца крык папярэджання – фуфло багор – гэта значыць, ідуць кантралёры з багром вышынёй да чацвертага паверха, з дапамогай якога зрываюць вяроўкі. Кантралёры адыходзяць, і зэкі зноў пачынаюць ганяць коней. Трэцяе. Каналам сувязі з'яўляецца каналізацыйная труба, па якой з дапамогай прыстасавання, зробленага з запалак і вяроўкі (вожыка), пераганяюцца запіскі, закручаныя ў цэлафан. Такім чынам, сувязь правіць не толькі светам, але і турмой.

**Ігар КІЦІКАЎ.**



Фота IREX/ProMedia.

Нават тут людзі ўвялі сваю іерархію.

■ ЭКАНОМІКА

# Тарыфы на перавозкі пасажыраў у цягніках унутраных зносінаў пакрываюць расходы менш як на 50%

**МІНСК. Нягледзячы на значнае павышэнне, тарыфы на перавозкі пасажыраў у цягніках прыгарадных і ўнутрырэспубліканскіх зносінаў пакрываюць расходы менш чым на 50%. Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік начальніка пасажырскай службы Беларускай чыгункі Юрый Радзько.**

16 лістапада кошт праезду ў прыгарадных электрычках павялічыўся ў два разы — з 20 да 40 рублёў за адну зону. Аднгачасова на 45–52% павялічыўся кошт праезду ў цягніках унутрырэспубліканскіх зносінаў. Цяпер паездка, напрыклад, з Мінска ў Магілёў у плацкартным вагоне пасажырскага цягніка будзе каштаваць 2.087 рублёў (раней — 1.411), у Віцебск і Гомель — 2.304 (1.552), у Брэст — 2.518 (1.691), у Гродна — 2.732 (1.900).

Папярэдняе павышэнне тарыфаў адбылося 10 лютага гэтага года. Па словах Радзько, у першым паўгоддзі страты чыгункі склалі 37,5 мільярда рублёў. 8,3 мільярда прыпадае на долю ўнутрырэспубліканскіх пасажырскіх зносінаў (тарыфы пакрывалі сабекошт на 25,7%), 11,5 мільярда — на долю прыгарадных перавозак (26,7%), 17,7 мільярда — на долю ўнутрырэспубліканскіх грузавых перавозак (35%).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

■ ЭКАНОМІКА

# Бестэрміновы страйк прадпрымальнікаў?

**МІНСК. З 1 студзеня можа распачацца ўсеагульны бестэрміновы страйк прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках.**

Як паведаміў БелаПАН каардынатар Савета арганізацый прадпрымальнікаў **Леанід Каліценя**, да гэтай меры яны звернуцца, калі ўлады не прыслухаюцца да патрабаванняў, якія будуць вылучаныя падчас аднадзённага папераджальнага страйку 23 лістапада, а таксама запланаванай на снежань другой буйной акцыі (яшчэ адзін аднадзённы страйк або мітынг).

Прадпрымальнікі патрабуюць адмяніць мытнае афармленне ўвозімых імі тавараў, якія паходзяць з трэціх краін і выпушчаныя ў свабоднае абарачэнне ў Расіі, пры ўмове сумарнага закупачнага кошту ўвезенага тавару не вышэй за 3 тысячы мінімальных зарплат штомесяц. Яны пратэстуюць супраць, на іх думку, неапраўдана ўскладненага парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, канфіскацыі тавараў кантралюючымі органамі, павышэння фіксаваных ставак падатку і цэн на арэнду гандлёвых месцаў на рынках. Па словах Каліцені, цяпер месячная арэнда «квадратнага метра асфальту» каштуе 20—25 долараў ЗША, у той час як арандаваць «добры офіс» (таксама за квадратны метр) можна за 10—13 долараў ЗША.

«Цяперашняе заканадаўства паставіла прадпрымальнікаў перад выбарам: або поўнасцю згортваць дзейнасць, або змагацца за свае правы радыкальнымі метадамі. Час просьбаў і спадзяванняў мінуў. Можна ўявіць, што робіцца ў звычайна спакойных рэгіёнах, калі яны выступаюць са значна больш рашучымі заявамі і прапановамі, чым мінскія прадпрымальнікі», — заявіў Каліценя.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

